


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 7 (20)
ЛІПЕНЬ
2003 г.


# Браслаўскія сьвяты

Тры дні вандровак у памежнай зоне
Пад торбай, што ня муляе пляча.
На лузе коні, белыя ў законе,
Нібы з калгасу «Глюкі Ільліча».

Хаваюся, нібыта партызаны:
Дазвол на ўезд сюды — не драбяза...
А ля касьцёлу, адурэць, — фазаны,
Як глюк, але мясцовага ксяндза.

Увечары шыкоўна і прыемна
Ахвярай дабрыні гаспадароў
П'ю малако, чытаю «Głos znad Niemna»
І прыдумляю вершы будзь здароў.

Мне беларускай нацыі агарак,
Што помніць дапатопныя часы,
Згадае, як раней казаў «zegarek»,
А сёньня дык па-нашаму — «часы».

Вясковых пеўняў стрэлка-перастрэлка.
Дарогі, дзе не начаваў асфальт.
Саракапяціградускай гарэлкай
Бастылію ўшаноўваю й Грунвальд.

У неабсяжным возеры Дрывяты
Кілбашуся, як рыбіна ў трысьці,
І разумею: сьвяты, бляха, сьвяты
Здараюцца ў шызоідным жыцьці!

**Ліпень 2003.**
**Браслаўшчына**

***Андрэй Хадановіч***

# ВЕСТКІ

Сябры клубу аматараў жывой археалогіі пры Браслаўскім музейным аб'яднанні сталі ўдзельнікамі двух прэстыжных фэстаў.

3 ліпеня свае ўмельства майстры дэманстравалі на фэсце сярэднявечнай культуры ў старажытным Нясвіжы. У экспазіцыйны комплекс "Даўнія рамёствы і заняткі" уваходзілі ганчар, разьбяр, майстры па пляценню. Паказваліся даўнія спосабы пісьменства, прадзенне верацянамі з праселкамі, пляценне паясоў на дошчачках, тэхналогія дрэварыту (адбіткі на паперы з драўлянай матрыцы), даўняя кухня.

Адразу пасля Нясвіжа частка сяброў клубу накіравалася ў Літву, дзе 4-6 ліпеня праводзіўся традыцыйны фэст "Дні жывой археалогіі ў Кернаве". Гэты фэст мае статус міжнароднага. Беларусь на ім прадстаўлялі рыцарскі клуб "Княжы Гуф" (Мінск) і дэлегацыя з Браслава.

Быў арганізаваны экспазіцыйны комплекс "Паселішча крывічоў", у якім працаваў ганчар (Валеры Зінкевіч), разьбяр (Аляксандр Курбан). У раздзеле «даўняя кухня» (Эла Зінкевіч, Людміла Пупіна, Алёна Селях) гасцям прапаноўваліся розныя стравы, у т.л. з дзічыны. Дарослым на тэрыторыі паселішча дапамагалі дзеці: Саша Пупіна, Алесь і Альгерд Селяхі. Асобным павільёнам былі прадстаўлены даўнія спосабы пісьменства (Кастусь Шыдлоўскі). Тут можна было паспрабаваць свае сілы ў пісьме на воску, бяросце, костках. Некалькі разоў быў прадэманстраваны абрад здабывання "жывога агню". Асабліва запамінальнай і хвалюючай была дэманстрацыя гэтага абраду, наладжаная разам з фальклорным гуртам "Кулгрында" (Літва), удзельнікі якога выконвалі песні звязаныя з культам агню.



# ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА



Г.Паплаўскі. Васіль Быкаў. Аўтапартрэт. 1987. З фондаў Браслаўскага музейнага аб"яднання

У чэрвені Беларусь развіталася з народным пісьменнікам Васілём Быкавым. Пайшоў з жыцця адзін з самых адданых сыноў краіны-маці, але засталіся яго таленавітыя кнігі, прасякнутыя праўдай аб трагічных старонках апошняй вайны. Гэтымі кнігамі будуць зачытвацца пакаленні беларусаў.

Васіль Быкаў некалькі гадоў жыў па-за межамі Радзімы. Перад самай смерцю ён вярнуўся ў Беларусь, жадаючы развітацца з гэтым светам на роднай зямлі.

Пашчасціла бачыць і чуць Васіля Быкава не адзін раз, пераважна на розных грамадскіх форумах. Выступленні пісьменніка не вылучаліся аратарскай натхнёнасцю, але да глыбіні душы кранала шчырасць яго слоў, глыбіня думкі, боль за тое, што адбываецца з краінай, народам. Не, не дарэмна Васіля Быкава называюць сумленнем нацыі.

На ўсё жыццё запомніцца сустрэча з Васілём Быкавым 10 ліпеня 1993 года падчас правядзення ў Мінску Першага з'езда беларусаў свету. У перапынках каля Быкава заўсёды было шмат людзей — найперш хацелі мець аўтографы на яго кнігах. Было відаць, што раздача аўтографаў стаміла Васіля Уладзіміравіча, і тыя, хто знаходзіўся побач, імкнуліся абмежаваць цікаўных. Выбраў хвілінку, калі вакол Быкава стала свабодней, і наважыўся падысці, яшчэ здалёк кажучы, што хацеў бы аўтограф не для сябе, а для Браслаўскага музея.

Васіль Быкаў
1 Аповесці
Жураўліны крык
Трэцяя ракета
Альпійская балада
Дажыцца да світання
Апавяданне
Сваякі
Мінск «Мастацкая літаратура» 1992

Было вельмі прыемна пачуць словы Быкава: "Шмат добрага чуў пра Браслаўскі музей". На першым томе збору твораў у шасці тамах (Мінск, 1992 г.) з'явіўся лаканічны запіс пісьменніка: "Браслаўскаму музею — на шчасце. В.Быкаў. 10.VII.1995 г.".

Васіль Уладзіміравіч запытаў, ці ведаю я, што ў Браславе жыве яго настаўнік з Беляўскай пачатковай школы Сцяпан Рыгоравіч Троцкі. Мы паразмаўлялі аб яго настаўніку. На той час іх раздзялялі супрацьлеглыя погляды: Васіль Уладзіміравіч быў адным з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", а Сцяпан Рыгоравіч стаяў на артадаксальных камуністычных пазіцыях. Але ў Браслаў я вёз цёплыя словы вітання былога вучня свайму настаўніку (дарэчы, у томіку, падпісаным Быкавым, ёсць фотаздымак класа В.Быкава з С.Троцкім). Ну, а ў музей вёз дарагі трафей — кнігу з аўтографам Васіля Быкава, з яго шчырымі зычэннямі для ўсіх нас, хто займаецца адраджэннем гістарычнай спадчыны нашага краю — часцінкі роднай Беларусі.

Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея.

# ВЕСТКІ

У Браславе адбылася міжнародная летняя школа-семінар "Сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі". Удзельнічалі маладыя даследчыкі з Беларусі, Украіны, Расіі, Францыі, Польшчы, Егіпта, Іарданіі. Праводзіліся тэарэтычныя, практычныя заняткі.



Напачатку ліпеня група вернікаў з Опсаўскай і Відзаўскай каталіцкіх парафій арганізавалі паломніцтва да храмаў Браслаўшчыны і суседніх рэгіёнаў на аўтамабілях. Аўтапрабег стаў грамадскай ініцыятывай і выклікаў вялікую зацікаўленасць у мясцовых наведвальнікаў святынь.



У Браслаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі пашырана экспазіцыя, прысвечаная вядомаму беларускаму мастаку Пётру Сергіевічу, які нарадзіўся на Браслаўшчыне. Экспазіцыя папоўнілася працамі мастака, сярод якіх партрэты землякоў, а таксама карціна "Язэп Драздовіч на руінах Наваградскага замку". Я.Драздовіч – самабытны, таленавіты мастак, з якім П.Сергіевіча звязвала шчырае сяброўства.



У маляўнічым куточку Браслаўшчыны адбыўся археалагічна-гуманітарны летнік, удзельнікамі якога былі 18 дзяцей з Мінска і наваколля. Дзеці працавалі на археалагічных раскопках, вучыліся паводзіць сябе ва ўмовах прыроды. Сябрамі Браслаўскага краязнаўчага таварыства былі наладжаны заняткі па даўніх відах рамёстваў. Напрыканцы заняткаў дзеці ўдзельнічалі ў здабычы "жывога агню", арганізацыі язычніцкага капішча, рыхтавалі сабе ежу на рэканструяваным ачагу.



На Браслаўшчыне нядаўна пачала дзейнічаць новая грамадская арганізацыя – адзяленне "Польскай Маці школьнай у Беларусі". яна аб'ядноўвае тых, хто вывучае польскую мову. Пасля заканчэння навучальнага году арганізацыяй была праведзена вандроўка па знакамітых мясцінах Глыбоччыны.



10 ліпеня Браслаў наведала група пісьменнікаў у складзе Вольгі Іпатавай і Сяргея Панізьніка. Адбыліся сустрэчы з чытачамі ў доме культуры, з удзельнікамі раённага літаратурнага аб'яднання ў цэнтральнай раённай бібліятэцы. Госці наведалі музеі Браслава. За сумесным круглым сталом адбылася зацікаўленая размова аб праблемах беларускай культуры, захавання і прапаганды гістарычнай спадчыны.

*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

# Сенсацыйная знаходка ў Рацюнках

Апошнія дні працы археалагічнай экспедыцыі БДУ пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі, якая даследвала гарадзішча Рацюнкі, прынеслі вялікую неспадзяванку: археолагі натыкнуліся на пахаванне. Пры зачыстцы аказалася, што на ўскраіне гарадзішча знаходзяцца тры касцякі – мужчынскі, жаночы і дзіцячы. Пэўныя прыкметы паказваюць, што людзі не былі закапаны ў нейкай спешцы, а



пахаваны паводле тагачасных звычаяў. На жаль, ніякіх прадметаў пахаванне не дало, але, мяркуючы па археалагічных пластах, яно вельмі даўняе і можа налічваць больш за 1,5 тыс.гадоў. Трохі пазней археолагі выявілі яшчэ адно пахаванне.

Пахаванні на гарадзішчы – унікальная з'ява для Беларусі. Знаходка выклікала больш пытанняў, чым дала адказаў. Іх вырашэнне – справа будучых экспедыцый.

# Экспанат з Чорнай Гары

У апошнія часы шмат пісалася аб гарадзішчы Чорная Гара, якое было знішчана кар'ерам.

У музеі захоўваецца калекцыя прадметаў з гэтага гарадзішча, большая частка якіх перададзена жыхаром Браслава Пятром Агейчыкам. Ён найбольш перажывае за знішчаны помнік, пастаянна наведвае тэрыторыю кар'ера. Нядаўна П.Агейчык перадаў у музей прадмет з бронзы, які пазней вызначылі археолагі. Знойдзена даволі рэдкая шпілька – жаночае ўпрыгожванне з касцюма балтаў.

Шпілька ўяўляе цікавасць для навукі і дазваляе пашырыць уяўленні аб знішчаным помніку.



**Шпілька з Чорнай Гары, а таксама фібулы, знойдзеныя школьнікамі ў 2003 г.**

*Веткі з экспедыцый*

*Летам бягучага году супрацоўнікі музейнага аб'яднання зрабілі шмат магнітафонных запісаў старажылаў Браслаўшчыны. У в.Лабуцеўцы ўдалося запісаць цікавыя казкі і паданні.*

*Прапануем увазе чытача некалькі твораў народнай творчасці. Да друку іх падрыхтаваў Яўген Навічонак*

* * *

## Як пачарка жыла з мачыхай

У мужыка памёрла ягоная першая жонка. Узяў ён другую жанчыну, ну і жылі. У яго засталася дачка і ў гэнай была дачка.

І што та вот жылі, жылі – не паладзіла:

– Нашто мне твая дачка, вязі ты яе хоць куды, – насела яна на мужыка. – Досыць нам маёй дачкі, нашто нам, нашто нам твая.

Ну што ж, бацька слухаў, слухаў, шкода, але ж жонка прыказваець. І ён павёз у лес. Вёз, вёз і знайшоў хатку на курынай ножцы, баранавых рожках, ранічкам накрытая, венічкам падпёртая, от і астанавіўся тут. Кажыць, ну будзем мы жыць, дачушка, у гэтай хатцы, ужо позна і далей не паедзем. Пасадзіў яе тут і кажыць:

– Ты, дачушка, сядзі тут, а я пайду ў лес, нада дроў насекчы.

Ну, павесіў венічак на сцяну, пабойнічку, там якое паленца і сам пайшоў, дамоў паехаў, а яе кінуў. А яна чакаець, чакаець бацьку, а венічак шусь, паленца стук. А яна і кажыць:

– Гэта мой татачка дроўцы сячэць.

І так доўга чакала, чакала, а на вуліцы стала цямнець.

Тады стала ў ваконца, там якое было і кажыць:

– Хто ў бару, хто ў лясу, прыйдзіце ка мне нанач.

А гэта ўчуў воўк і кажыць:

– Я ў бару, я ў лясу, прыйду к табе нанач.

Яна ўжо рада і кажыць ваўку: "Ну прыхадзі ка мне нанач".

І воўк прыйшоў да яе ў хату і кажыць:

– Дзеўка, дзявіца, сцялі мне пасцель.

А яна спужалася, што гэта воўк, і кажыць:

– Я, я ж бедная, з чаго ж я табе пасцель слаць буду?

– Тады фукай мне ў вуха.

Ну і фукнула яна, і тут як паглядзела ўсяго там: і коней, і ступы, і бароны – усё, што нада.

– Ну і сцялі мне пасцель: рад камені, рад бярвені, ступу пад галаву, а бараной накрыцца.

Ну яна яму паслала ўсё. А ён перад сном даў ей ключы. Калі яна імі дзе пазвоніць – тады яе заб'ю і з'ем. Кажыць ей:

– На табе ключы і звані, каб я чуў, дзе ты ёсць.

А тут ляцела мышка і кажыць:

– Дзеўка, дай мне ключыкі я і буду імі званіць.

Ну, так мышка лётае і звоніць, а воўк пачуў гэта і давай у той бок кідаць усё што: і барану, і каменні. Усё так кідаў, кідаў і настаў дзень, а дзяўчына сядзіць схаваўшыся. Воўк пашукаў яе, але ўжо развіднела і ён спужаўся і ўцёк. А ўсё гэта асталося. Тады яна сабрала ўсё багацце. Села на коней і едзіць дамоў.

А каля хаты мачыхі ўжо сучачка маладая:

– Уяў, уяў, уяў – дзедава дачка едзіць,

– Уяў, уяў, уяў – багатая,

– Уяў, уяў, уяў – з падаркамі на лінейцы.

А мачыха як дасць гэтай сучцы:

– Што ты тут брэшаш, яе жывой ужо німа.

А яна ізноў сваё. І праўда – уз'язджаець багатая дзедава дачка. Ну і зажыла яна багата, сталі да яе мальцы ўхаджваць, замуж узялі. Ну што ж, пазавідавала мачыха. Ды да дзеда:

– Вязі і маю цяпер дачку, каб і яна была багатая.

Ну дзед і павёз гэту дачку. А яна была свірытая, вострая, нікому не пакарылася. І дзед усё таксама зрабіў, пасадзіў дачку ў гэтую хатку і зноў пайшоў дроўцы секчы. А яна зноў, як і тады дачка пагукала: "Хто ў бару, хто ў лясу...". І зноў прыйшоў воўк да яе. Але яна яму не хукнула ў вуха. Тады воўк і кажыць:

– Дзеўка, сцялі мне пасцель: рад – палені, рад – камені, ступу пад галаву і бараной накрый. І на табе ключы, і звані ўсю ноч.

Ізноў выскачыла мышка і кажыць:

– Дзеўка-дзявіца, дай мне ключы, а ты сама хавайся.

А яна мышцы як дасць:

– І падзі адсюль, я сама буду званіць.

Ну, і гэта дзеўка так званіла, пакуль воўк яе не забіў, з'еў і костачкі на стале паклаў. І так дзень праходзіць, другі, трэці. Маці да дзеда кажыць:

– Ідзі, шукай маю дачку, чаго яна не яўляецца дамоў з багаццем.

І пайшоў дзед шукаць. Прыходзіць у тую хатачку, а там на стале толькі костачкі ляжаць. Сабраў ён іх у каробачку і панёс дамоў. А мачыха выйшаўшы на вуліцу чакаець. А тут на двары сучачка:

– Уяў, уяў, уяў – дзед бабіну дачку нясець,

– Уяў, уяў, уяў – толькі костачкі ў торбачцы нясець.

А мачыха ізноў да сучачкі, як зазлуецца на яе. А сучачка ізноў сваё.

А тут падыходзіць дзед.

Ну вот, і басня ўся пра белага лася.

## Казка пра чараўніка

Быў такі чалавек, што мог і варажыць, і лячыць. І прыязджаець да яго нейкі купец і кажыць, што ў яго коней пакралі, дзе, пытаецца, іх можна знайсці?

І гэты чараўнік узяў нейкую кніжку і паглядзеўшы ў яе сказаў: "Куды ты паедзеш, там сваіх коней нойдзеш".

А што яму болей казаць? І якім там пуцём купец ехаў і прыязджаець да лесу, а там стаяць яго коні прывязаныя.

І пайшла слава пра гэтага чалавека: добра ўмеіць варажыць.

Добра, нейк укралі ў пана чаляднік з чалядніцай куфэрачак золата і схавалі яго пад яблынай.

Ну і раз такая справа, пан паслаў кучара за варажэям. Прывязлі варажэя, пан загадаў чалядніку і чалядніцы яго накарміць. І вот ён паеў і сказаў, што грошы ўкралі чалядніца з чалядьнікам. А якраз пана не было і яны рашылі заплаціць варажбіту, каб ён іх не выдаваў. І прыходзяць яны і кажуць:

– Братка, не кажы, што мы грошы пакралі.

– А дзе яны, грошы?

– А вун – пад той яблыняй мы іх схавалі.

І тут прыходзіць пан і пытаецца, ці знайшоў ён грошы. А гэты чалавек зноў дастаў сваю кнігу, паглядзеў і кажыць:

– Зараз, пан, знайду твае грошы, вунь яны пад той яблынай схаваны, бяры лапату і капай.

Гэты – шчас, лапату ў рукі, пакапаў і знаходзіць куфэрак з грашыма і пытаецца:

– А хто грошы мае пакраў?

– Ну, калі твае грошы нядаўна скра-джаны, дык узнаю, а калі даўно, то не ўзнаю.

– І дождж ішоў, сляды затаптаныя, не магу ўзнаць...

Ну, добра, тады пан заплаціў яму і адправіў дамоў. І праз нескалька врэмя ў цара захварэў адзіны сын. І вот ён гэтат паслаў па дохтара-варажэя пасыльнога. Прыязджаець пасыльны, забраў дохтара-варажэя, прывёз у царскі дварэц. А ў сына села на горле скула. Там усе генералы, палкоўнікі сабраліся, а сын ляжыць на пасцелі, галаву ўніз звесіўшы. І прыязджаець доктар-варажэй і пытаецца, чым сын хворы, а сын маўчыць, гаварыць не мо-жыць. І тады доктар патопаў, патопаў кала яго, расшпіліў яму кашулю, пашчупаў і знайшоў на задніцы ў яго прышчык. Сейчас пабег за сваім партфелем, нешта зрабіў маламу, а потым плёсь яму па задніцы. І як захахатаў сын, скула ў яго прарвала, гной выцек.

А доктар-варажэй і кажыць, што каб не я, дык ты скора памёр. А цар як узлаваўся, што генералы ды палкоўнікі хацелі наследніка звесьці, дык усіх гэтых генералаў пастроіў і разагнаў. А на дохтара-варажэя кажыць, што цібе я наніму пры сабе і будзіш ты царскім дохтарам.

# КОНЬ І ЧОРТ – СТАРАЖЫТНЫЯ МІФАЛАГІЧНЫЯ ВОБРАЗЫ

У фальклоры Браслаўшчыны, як і наогул у паўночна-беларускім фальклоры, адным з найболын яскравых, каларытных і найчасцей сустракаемых вобразаў з'яўляецца чорт, ці, як часцей гавораць, нячысты.

Адразу трэба сказаць, што нячысцік фальклора істотна адрозніваецца ад Сатаны царкоўнай традыцыі. З паданняў вынікае, што калісьці вельмі часта, а зрэдку і зараз, вольна ці нявольна, чорт дапамагае Усявышняму, але заўжды мае намер сапсаваць усё зробленае Богам, зрабіць наадварот. Далека не ўсюды можа існаваць нячысты. У якасці яго жылля называюцца месцы, якія не падыходзяць для гаспадарчай дзейнасці чалавека – у першую чаргу гэта багна, віры ў рэчцы, цяжка даступныя лясныя нетры. Побач з жыллём чалавека існуе шэраг мясцін, дзе найчасцей пацяшаецца чорт, дзе ён найбольш небяспечны і моцны. Звычайна – гэта могілкі (у тым ліку і старажытныя курганы), перакрыжаванні шляхоў, млыны, пакінутыя пабудовы і гэтак далей. Але і там ён мае моц толькі ад апоўначы да першага спева пеўня. Асноўным яго заняткам лічыцца паляванне па грэшныя душы і ахова скарбаў. Калі вельмі трэба, з нячыстым магчыма дамовіцца, але неабходна старанна выконваць шэраг умоў і быць вельмі асцярожным, бо ў кожным яго слове схавана хіба. Традыцыйна лічыцца, што з чортам знаюцца пастухі, млынары, музыкі, і, як гэта ні дзіўна, дзякі, царкоўныя вартаўнікі і служкі, наогул ніжэйшыя чыны царкоўнай іерархіі.

Ва ўяўленнях літоўцаў і віцебскіх беларусаў нячысціку надаецца шэраг рысаў каня – ён мае конскія капыты; з першым спевам пеўня падараваныя ім рэчы ператвараюцца ў конскі гной, конскіе капыты ці пута з капытам. Сам д'ябал з'яўляецца па душу ведзьмака ў выглядзе чорнага жарабца, альбо прымае гэты вобраз, каб адвесці даверлівых падарожных ад падуладных яму скарбаў.

Існуе паданне, якое тлумачыць падабенства чорта і каня паходжаннем апошняга ад нячыстага: «Даўней, кажуць, баранаваў чалавек, а чорт прыйшоў, сеў на барану і чалавек не мог пацягнуць бараны. Тагды Бог сказаў на чорта, штобы ен быў канём, – і чорт стаў канем, і з тых пор сталі на свеце коні."

З фальклора вядома, што замест коней у нячыстых працуюць заложныя нябожчыкі (апойцы, самагубцы і г. д.). Распаўсюджаны сюжэт пра каваля, які падкаваў нячысцікам кабылу – як высветлілася, пападзью-самагубцу.

Часцей за ўсе да нячыстай сілы звярталіся падчас варажбы. Трэба адзначыць, што, нягледзячы на распаўсюджанасць практыкі варажбы, яна, амаль наўзроўні з вядзьмарствам, лічылася вялікім грахом. Вядома была варажба па іржанню і тупату коней. Іржанне каня ў ночы прадказвала смерць некаму з састарэлых домачадцаў.

У матэрыялах Віцебшчыны сакральнай рэччу выступае такі атрыбут каня, як хамут. Вядома, што пры смерці вядзьмара (часцей за ўсе цяжкай і пакутлівай), віцебскія беларусы лічылі неабходным падвесіць на печ хамут: «Ввиду того, что душа колдуна рогата и ей трудно выйти из тела, на печь привешивают хомут со шлеями, чтобы черти могли запрячься и общими усилиями извлечь рогатую душу». Найстаражытнейшым сэнсам падобнага рытуала, верагодна, было адкрыццё блізкага і лёгкага шляху на «той» свет. Аб гэтым жа гавораць матывы выкарыстоўвання хамута каб убачыць «продкаў» ці чарцей: «Аднойчы сын пытае ў бацькі ... «як будзеш паміраць, скажы мне». А бацька адказаў: «Добра. Як скажу, ты залезь на печ, вазьмі хамут і праз яго глядзі, як я паміраю». Вось бацька занядужыў, ляжыць у ложку і смерці чакае. А сын хуценька на печ залез і робіць усё, як бацька казаў. Бачыць, прыйшоў чорт і схапіў бацьку з ложка. А замест яго ўлегся другі чорт, але такі падобны на бацьку, проста адзін твар».

Выкарыстоўваўся хамут і ў дзявочай варажбе аб замужжы: «смотрят в хомут, освещённый тремя свечами, приговаривая: «суженая нечистая сила, покажи, что мне сбудется в нынешнем году»». З дапамогай хамута магчыма было нават стаць ваўкалакам – дастаткова было пралезці скрозь яго: «Пасварыўся мужык с суседкай. Імгненна стала на сердце так моташна, так нудна, і захацелася мне вот непріменно праз хамут пралезці. Як я пралез, так і стаў ваўком і пабег».



След капыта на Конь-камяні каля в.Краснагорка. Замалёўка Дз.Струкава. 1864 г.

Такім чынам, адзін з атрыбутаў каня – хамут, атаясамляўся з брамай паміж светам жывых і мёртвых, рэччу, якая дазваляла выйсці ў непасрэднае сутыкненне з «тым» светам. Падобнае паходжанне мае і забарона праходзіць па месцы, дзе ляжаў конь, наступаць ці пераступаць праз повад, дугу, хамут, аглоблі, сядзець на парозе цяжарнай жанчыне. У гэтым выпадку конь разглядаецца як хтонічная істота, непасрэдна звязаная са светам мёртвых і смерцю, сустрэча з якой можа пашкодзіць немаўляці – спадарожніку ад мёртвых (продкаў) да жывых. Конь лічыўся вартаўніком мяжы паміж «гэтым» і «тым» светам, які ахоўвае жывых ад злых духаў апраметнай. Тут магчыма прыгадаць звычай класці пры пабудове хаты як амулет конскі чэрап пад парог ці пад пярэдні кутні слуп фундамента печы («коневый стоўп»).

Яшчэ адной праявай хтанічнага культа з'яўляюцца шырока вядомыя на поўначы Беларусі сакральныя камяні – буйныя па памерах рэліктавыя валуны. На Браслаўшчыне гэта «Чортаў камень» ва ўрочышчы Задворцы бліз в.Багданова, Чароўны ці Цудадзейны камень у лесе каля в.Жырнелішкі, «Чортаў след» (Святы камень, Божы след) у лесе ля в.Булавішкі, «Закляты камень» паблізу ад в.Латочкі, «Конь-камень» з слядамі каня ў в.Красногорка каля возера Снуды, камень з выявай конскага капыта ў Калытным ручаі каля в.Шаўры.

Часта на такіх камянях высякалі сляды жывёл і чалавека, сярод якіх сустракаецца і выява конскага капыта. Па звесткам мясцовых жыхароў, вадой, якая збіралася ў гэтых паглыбленнях, лячылі коней.

Амаль з кожным з падобных камянёў звязана паданне. Часцей за ўсе гэта легенды аб заклятых скарбах. Пра камень каля в.Багданава кажуць, што на ім танчаць агеньчыкі. Пра Чароўны камень мясцовае насельніцтва распавядае, што бачылі паблізу ад яго трох вершнікоў, якія нечаканна з'яўляюцца і, напалохаўшы падарожных, знікаюць. Пэўна, найбольш цікавае і поўнае паданне звязана з камянём каля в.Латочкі: «Жыў калісьці ў Латочках багаты пан Мілевіч. Не даў бог яму нашчадкаў, каб перадаць багацце. Перад смерцю, каб не дасталася яно сялянам, закапаў човен з золатам пад гэтым каменем. А каб ніхто не забраў, наклаў закляцце: «Толькі той возьме мой скарб, хто выканае тры ўмовы. Першая ўмова:




Пячатка князя Жыгімонта, 1398 г.

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!!!*

*Максім Багдановіч*

распаліць вогнішча на Лысай гары, што побач. Другая ўмова: здзерці з жывога каня скуру. І трэцяя ўмова: запрэгчы гэтага каня і правесці на ім вакол каменя тры баразны. І выйдзе тады човен на свет».

Звычайна «святыя» валуны размяшчаліся ў глухіх і цяжкадаступных месцах. Верагодней за ўсё, сакральныя валуны першапачаткова былі месцам рытуалаў і прынясення ахвяр, на што паказвае і вышэйпрыведзенная легенда.

З ахвярапрынашэннем каня звязаны комплекс на ґрунтавым могільніке X-XI стст. на правым беразе р.Дзісна, паблізу ад мястэчка Дзісна ля в.Казлоўцы Мёрскага раёна. Тут выяўлена значная колькасць авальных ям памерамі ад 1 да 3 м, запоўненых шэрай зямлёй, змешанай з попелам і вуголлем, без знаходак, не звязаных з пахаваннямі. У адной з ям знаходзіліся чэрап і частка костак каня. Таксама цікавым для нас з'яўляецца адзін з курганоў ва ўрочышчы Леснічоўка, (вядомым яшчэ як Чырвоны Бор і Лысая Гара), што каля Браслава, дзе ў слаі попелу і вугля знойдзены косткі конскай нагі.

Доўгі час знаходкі конскіх костак у магілах людзей інтэрпрэтаваліся толькі як пахаванні транспартнай ці баявой жывёлы, пахавальная ахвяра, ежа. Мы маем магчымасць некалькі па-іншаму глянуць на праблему каня як жывёлы-ахвяры. У індаеўрапейскай традыцыі галава каня належыць да верхняга свету (неба), цела сімвалізуе сярэдні (паднябесны), ногі з капытамі – ніжні, (падземны). Такім чынам, разам з нябожчыкам у апошні шлях адпраўлялі жывёлу, якая спалучае функцыі карты і праваднiка, а таксама з'яўляецца надзейным ахоўнікам памёрлага ад злых духаў апраметнай. Трэба адзначыць, што даволі часта ў пахаванні знаходзіцца не поўны касцяк каня, а толькі ногі і чэрап. У такім выпадку, пры правядзенні пахавальнага абрада з тушы жывёлы-ахвяры выдалялася тая частка (цела), якую атаясамлялі з сярэднім, паднябесным светам. Верагодна, сэнсам гэтага рытуала было выдаленне з схемы сусвета, дадзенай нябожчыку, света жывых, каб памёрлы ці дэманы не маглі знайсці шлях да жывых, не маглі шкодзіць людзям. Магчыма, што з мяса цела закланага каня гатавалася рытуальная страва, якая з'ядалася падчас трызны.

Акрамя вышэйсказанага, абрад ахвярапрынашэння магчыма разглядаць як будаўнічую ахвяру пры ўладжванні могільніка і пры размяшчэнні нябожчыка ў яго «новай хаце».

Астэалагічны матэрыял з помнікаў Паўночнай Беларусі сведчыць аб тым, што на працягу I т. да н.э. – I т. н.э. коні былі адной з асноўных крыніц мяса для насельніцтва. Так, на матэрыялах гарадзішча Зазоны конь складае 24,3 % асобін хатніх жывёл, саступаючы толькі свінні. Цалкам верагодна, што частка костак належыць не хатняму, а дзікаму каню – тарпану. У больш позні час каніна выкарыстоўвалася ў ежу вымушана, ў галодныя гады ці ў надзвычайных сітуацыях. Раструшчаныя трубчастыя косткі коней знойдзены пры раскопках Браслава, Маскавіч, Дрысвят, Іказні і г.д. Адмова ад выкарыстання ў ежу каніны была, часткова, выклікана распаўсюджваннем хрысціянства: ахвярапрынашэнне каня і прыгатаванне сакральнай стравы з яго мяса з'яўлялася часткай язычніцкай традыцыі. Звычайна ахвяраванне жывёлы бажаству суправаджалася паяданнем мяса ахвяры. У такім выпадку мяса жывёлы-ахвяры – гэта мяса бога, якое з'ядаюць, каб замацаваць адзінства з бажаством. Магчыма, менавіта з прычыны распаўсюджанасці падобных рытуалаў, папа Грыгоры III (731-741 гг. н.э.) забараніў ужыванне каніны ў ежу, назваўшы гэта бруднай і апаганьваючай справай. Верагодна, забарона гэта сустрэла досыць гарачую падтрымку княжацкай эліты, так як каняводства вельмі пакутавала ад феадальных войнаў, узброеных сутычак, і было неабходна істотнае папаўненне пагалоўя коней.

Найбольш верагодна, што ў якасці нячыстага народных паданняў выступае найстаражытнейшае індаеўрапейскае бажаство, апякун звяроў і быдла, бог урадлівасці, падземнага царства, шляхоў і межаў, уладар мёртвых. Конскія капыты чорта балтскага фальклора, (які, як вядома, захаваў шмат архаічнага) паказваюць на хтанічную прыроду гэтага персанажа. Аб тым жа сведчыць і характарыстыка нячыстага як паляўнічага па душы і ахоўніка скарбаў. Конь – яго сімвал, яго свяшчэнная жывёла-ахвяра. З цягам часу частка функцый гэтага бажаства адыдзе да другіх, больш спецыялізаваных язычніцкіх багоў, такіх, як Чур – бог межаў, Вялес – апякун быдла, Ярыла – бог веснавой урадлівасці. Пасля прыняцця хрысціянства функцыі Вялеса пяройдуць да св.Власа, св.Флора і св.Лаўра, Ярылу зменіць св.Георгій, а старажытнае бажаства і звязаныя з ім рытуальныя месцы атрымаюць негатыўны сэнс.

Юлія Латушкова. Мінск, супрацоўніца Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі

# Памяці Станіслава Нарбута

*"Свецячы іншым – згараю сам."*
Старажытны дэвіз медыкаў

Ён заўсёды быў ветлівым і чулым, –
Іскрай Бог душу пазалаціў.
І далёка пра яго пачулі...
І доктару любоўю люд плаціў...

Выпала яму такая доля:
Іншым ярка свецячы, згарэць:
Ідучы да хворага праз поле
У залеву,
Цяжка захварэць
І памерці,
Выказаўшы просьбу
Пахаваць на Замкавай гары...

Помнік на яго магіле ўзнёсся,
Маяком ліхтар на ім гарыць.

Каб не заблудзіўся чалавеча,
Каб бяды не здарылася з ім...

Нарбут Станіслаў і зараз лечыць
Нас гаючым прыкладам сваім...

**Станіслаў Валодзька**
**Даўгаўпілс**
**18 ліпеня 2003 года.**

## *Юбілеі*



14 чэрвеня споўнілася 75 гадоў Аляксандру Гарэліку, які шмат гадоў працаваў у Браславе настаўнікам гісторыі, актыўна займаўся краязнаўчай працай, стварыў цудоўны школьны музей, традыцыі якога працягвае сучасны гістарычна-краязнаўчы музей. Аляксандр Юр'евіч пакінуў глыбокі след у краязнаўчай, музейнай справе на Браслаўшчыне. Дзякуючы яго грунтоўным публікацыям, жыхары Браслава змаглі ўпершыню пазнаёміцца з багацейшым мінулым роднага горада.

А.Гарэлік закончыў Белдзяржуніверсітэт і ў Браслаў трапіў па размеркаванню. Шчыра палюбіў азёрны горад. Гэту любоў прывіў сваім дзецям – Барысу, Рыгору, Іне. Барыс Гарэлік – аўтар вершаванага варыянта легенды аб заснаванні Браслава.

У 1982 г. Аляксандр Гарэлік моцна захварэў і паехаў у Рыгу да дзяцей. У 1984 годзе ўся сям'я Гарэлікаў эмігрыравала ў ЗША. Доўгі час аб Аляксандры Юр'евічы не мелася дакладных звестак. У бягучым годзе ўдалося ўстанавіць кантакт з яго дачкой Інай, а праз яе – і з самім Аляксандрам Юр'евічам. Жывуць Гарэлікі ў Нью-Ёрку, але вельмі часта ўспамінаюць Браслаў. У адным з лістоў Аляксандр Гарэлік напісаў: "Я ўдзячны Вам ад усяго сэрца за магчымасць зноў датыкнуцца сваім сэрцам да Вас і са слязьмі шчасця на вачах удзячны Вам за тое, што мая праца не змарнавалася. Удачы Вам і шчаслівага развіцця, мае родныя землякі!"

Тыя, каму неабыякава гісторыя нашай Браслаўшчыны, будуць памятаць унёсак Аляксандра Гарэліка ў краязнаўчую працу. Шчыра зычым юбіляру шчасця і моцнага здароўя.

* * *



1 чэрвеня адзначыў 60-гадовы юбілей Андрэй Майсяёнак – вядомы навуковец, краязнавец, вялікі сябар Браслаўшчыны. Андрэй Георгіевіч быў адным з арганізатараў першых Браслаўскіх чытанняў, актыўна ўдзельнічаў у стварэнні экспазіцыі гістарычна-краязнаўчага музея. Ён першы пачаў даследваць біяграфію славутага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута. Майсяёнкам напісаны артыкулы, прысвечаныя лекару, зроблены выступленні на шэрагу навуковых канферэнцый. Дзякуючы няўрымслівай працы даследчыка, з'явіліся экспазіцыі, прысвечаныя С.Нарбуту, у Браслаўскім музеі, у Радуні на малой радзіме лекара, у Музеі гісторыі медыцыны Беларусі ў Мінску. Нават тое, што звязвае А.Майсяёнка з Браслаўшчынай, цяжка пералічыць – настолькі ім шмат зроблена (дарэчы, з Браслава паходзіць жонка даследчыка).

Але ж акрамя гэтага Андрэй Георгіевіч – таленавіты вучоны біяхімік, доктар біялагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук, прафесар. Ён вядзе актыўную грамадскую і краязнаўчую працу і ў Гродна, і ў нацыянальным маштабе, ён актыўна ўдзельнічае ў краязнаўчым руху Глыбоччыны, Шаркоўшчыны (сям'я Андрэя Георгіевіча цесна звязана з Прыдзвінскім краем, а сам ён нарадзіўся ў Глыбокім). А.Майсяёнак – прызнаны даследчык гісторыі медыцыны Беларусі. У юбілейны нарбутаўскі год Андрэй Герогіевіч змог прыехаць на "Браслаўскія чытанні". Яго пранікнёныя словы, прысвечаныя постаці легендарнага лекара распачалі міжнародную канферэнцыю.

Стваральнікі выдання "Павет", супрацоўнікі музейнага аб'яднання, усе сябры-браслаўцы шчыра віншуюць юбіляра, зычаць няўрымліваму, нястомнаму даследчыку творчага плёну і доўгіх гадоў шчаслівага жыцця.

## *Выдавецкія навіны*

*Пабачыў свет другі выпуск альманаха "Ветразь надзеі", які выдаецца літаратурным аб'яднаннем Браслаўшчыны. Аб'яднаннем кіруе Тэрэза Крумплеўская. Менавіта яна ініцыятар і ўкладальнік выдання. Альманах уключае паэтычныя і празаічныя творы такіх аўтараў, як: Іна Багдановіч, Галіна Бразюль, Марына Кавалёнак, Іна Канаховіч, Тэрэза Крумплеўская, Вікторыя Кузняцова, Вольга Лянеўская і інш. Усяго змешчаны творы 17 аўтараў, якія пішуць па-беларуску і па-руску. Ёсць вершы ўдалыя, ёсць "сыраватыя". Аднак вельмі важна, што ў аўтараў ёсць магчымасць пазнаёміць з імі сваіх землякоў. Рэдакцыя выдання "Павет" зычыць творчага плёну стваральнікам і аўтарам альманаха "Ветразь надзеі".*

*Эрыка Мажэйка*

### ВОСЕНЬ

Мілая, прыгожая, сумная пара.
Гоніць лісце жоўтае вецер са двара.
Чырванее гронкамі бузіна, каліна
І дрыготка лісцямі шапаціць асіна.

Павуцінне кружыцца ніцямі ў паветры,
Водар лісця, ягад нам даносіць ветрык.
Ногі так і просяцца пагуляць па лесе.
Восень-чараўніца дорыць свае песні.

Песні ёсць у лузе. Там пяюць аблокі,
Песні ёсць ля возера, ля рачной пратокі,
Дзе рака з-за горкі стужачкай уецца,
То – нібы шапоча, то – нібы смяецца.

*Тэрэза Крумплеўская*

### ПРЫСВЕЧАНА МАМЕ

Усё жыццё буду я на каленях
За цябе да нябёсаў маліцца.
Мама, ты – маё станаўленне.
Ты – святла майго сэрца крыніца.

Нарадзіла мяне ты на шчасце,
Навучыла дабро несці свету.
За цябе я прымаю прычасце.
У светлым сэрцы заўжды ты ўспета.

Шлях жыццёвы, што дадзены Богам,
Я з падзякай прымаю заўсёды.
Мама, ты мне адкрыла дарогу,
Раздзяліла мае ўсе нягоды.

Усё жыццё буду я на каленях
За цябе да нябёсаў маліцца.
Мама, ты – маё станаўленне.
Ты – святла майго сэрца крыніца.

*Гартаючы старыя газеты*

## ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА «НАША НІВА» АБ БРАСЛАЎШЧЫНЕ

*В. **Прыдруйск,** Вітэбск. губ. Дрыс. пав. Пачтовы аддзел у Прыдруйску заменены цяпер на пачтова-тэлеграфічны. Гэта справа даўно лежала на сэрцы нашым жыцелём бо выходзіла вялікая невыгода ад нехвату тэлеграфу.*

*М. **Відзы,** Ков. губ. Праз неасцярожнасць з газай, загарэлася перш крамка, а пасьля агонь разыйшоўся на мястэчка; згарэла большая часць яго. Страты вялікіе.*

*С-пад **Шаркоўшчыны,** Дісн. пав. Вілен. губ. У нас стаіць, небывалае спякота; суш такая, што гінуць пасевы і сенажаці, на вышэйшых лугах трава крышыцца пад нагамі – някошэная ешчэ. Дзе-не-дзе і лес загараецца; млыны „коламі звоняць"; развяліся пажары па вёсках: між **Друей і Дзісной** недаўна згарэло некольні сяліб, а ў мястэчку **Міорах** (у ночы 24 мая) згарэло 10 хат, – самые багатыше жыдоўскіе крамы і манаполька. У вёсцы **Шышкі** (каля м.Гэрманавіч) малады чэлавек, купаючы ў Дзісенцы каня, сарваўся і папаў у ваду. Праз пяць гадзін знайшлі і выцягнулі яго нежывога: меў у руцэ аброць, а на твары і плечах знакі конскіх капытоў. Асіраціў бацкоў і жонку.*

*І.Разора.*

*М.**Іказнь,** Віл. губ. Дзісенск. пав. Трэйцяго мая ў нас тут выпаў такі вялікі град (3 галубінае яйцо), што аж вокны у хатах павыбіваў і надта многа папсаваў жыта. Мейсцамі прыйдзецца адгорываць, а мейсцамі можэ толькі насеньне вернецца. Усё шчасьце, што град йшоў ня скрозь, а бытцам перэскаківаючы, дык ня ўсюды нарабіў шкоды.*

*Цэны цяпер у нас вось якіе: авёс 50 кап., жыто і ячмень па 60 кап. бульба 15 кап. за пуд.*

*=Як і ўсюды, так і ў нас гарэлка для людзей – першая мэта. Пьюць старые, а, на іх гледзячы і маладые. Як прыйдзе якое небудзь сьвята, дык на вуліцу за пьянымі і вылесьці нельга.*

*За апошніе дзесяць год нашы восем невялічкіх вёсачак выпілі 6315 ведзер на 53054 руб., а па гадох выпадае так:*

*У 1900 гаду — 608 ведзер.*
*» 1901 » — 621*
*» 1902 » — 554*
*» 1903 » — 532*
*» 1904 » — 553*
*» 1905 » — 579*
*» 1906 » — 822*
*» 1907 » — 763*
*» 1908 » — 677*
*» 1909 » — 607*
*Усяго 6315 в. на 53054 р.*

*Надта цікавы першые 4 месяцы гэтаго года, за каторые выпіто:*
*Бутэлак . . . 1316 штук.*
*Гарцовак ... 78 штук.*
*Поўбутэлак . 5506 штук.*
*Сотак . . . 1368 штук.*
*Двухсотак . . 189 штук.*

*А калі перэлажыць іх на грошы, дык 8 вёсак за чатыры месяцы выпілі на 2063 руб. 60 коп.*

*Скуль-жэ будзе брацца багацьце калі на гарэлку грошы заўсёды знаходзяцца, а як Крэсцьянскі Банк адрэзаў 2 дзесяціны пад вучылішчэ, дый папрасіў, каб памаглі вывясьці матэр'ял, дык мы атказаліся, бо лепей грошы прапіць, чым даць прасьвету дзецям.*

*Ой, пара, браткі, агледзецца, бо будзе позна і сягоньня сын п'янствуе з бацькам, а заўтра пачне валтузіць яго. Заплачэ бацька, але будзе ўжо позна. Народ хочэ правоў, лепшай долі, дзеля гэтаго трэба і самых сябе стражэй трымаць.*

*За прапітые грошы можна было-б мець мужыком гімназію для сваіх хлапцоў.*

Е.Кро-к

***Друя.** Вітэб.г. Скранулася р.Друйка і разьбіла 20 плытоў купца Клейна. Дзьвіна толькі ешчэ пачала будзіцца, а ўжо на сваей дарозе стратавала зазімаваўшые плыты.*

***Дзісна.** Віл.г. На меншых рэчках, як Дзісенка і іншые, крануўся неўспадзеўкі лёд і, ўдарыўшы з вялікай сілай, нарабіў шмат шкод. На Дзісенцэ разарваў 30 ганоў.*

***Дзісна.** Зямельны крэсціянскі банк купіў у тутэйшым павеце чатыры маёнткі: Завадковшчыну і Калесьнікі (ўсяго 318 дз.) ад п.Шчэгловітова: Споруны і Мазурковшчыну (ўсяго 121 дз.) ад п.Волоссоўскаго. Перш маёнткі гэтые арэндавалі тутэйшые селяне і яны хацелі іх адкупіць; але банк парэзаўшы зямлю на 30 частак, прадаў іх стараверам.*

**Наша Ніва. Факсімільнае выданне. Вып.3. 1910 г.**


« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.



Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by



Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)